УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-44
М24

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка» заснаваная ў 2009 годзе

Падсерыя «Пункт адліку» заснаваная ў 2012 годзе

**Манцэвіч, Н.**

М24 Птушкі : [Тэкст] / Наста Манцэвіч. — Мінск : Логвінаў, 2012. — 50 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).

ISBN 978-985-6991-91-9.

Зборнік Насты Манцэвіч складаецца з вершаў і апавяданняў, паміж якімі няма фармальнай мяжы. Яна адсутнічае таму, што ўкладальнікі не бяруць на сябе адказнасць вызначыць, дзе ў гэтым корпусе тэкстаў заканчваецца проза і пачынаецца паэзія. Пакідаем гэта на волю чытача.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-6991-91-9**

# Дождж

Мой сябра дзяцінства, з якім мы гулялі ў футбол у маёй вілейскай кватэры, дзе варотамі былі з аднаго боку дзверы пакою, а з другога — ножкі ад цымбалаў; з якім мы складалі графік нашых сустрэч, і я прыходзіла да яго кожны чацвер, а ён да мяне кожны аўторак, таму што ў гэтыя дні нам не трэба было ў музычную; з якім мы разам прыдумлялі яшчэ шмат чаго цікавага і які потым хаваў мяне ў шафе ад сваіх аднакласнікаў, калі тыя прыходзілі да яго, бо хто ж захоча, каб яго дражнілі — цілі-цілі-цеста, наста+вадзім — жаніх і нявеста. Ён паказваў ім маю куртку і казаў: «Прыкольную куртку мы купілі маёй сястры?» А я сядзела ў шафе, і мне было зусім не крыўдна, бо я разумела, што так і трэба, і думала, што клёва гэта ён прыдумаў сказаць так пра куртку. Дык вось гэты мой сябра дзяцінства запісаўся ў духавы аркестр, і ён мне потым расказваў, што цяпер яму вельмі падабаецца слухаць розную музыку, што цяпер ён чуе яе зусім па-іншаму. Раней яна была для яго адным цэлым, а зараз ён ведае — вось гэта першая партыя, а гэта — другая, а там яшчэ і яшчэ, яны наслойваюцца адна на другую, але ў той жа час ён чуе асобна кожную з іх. Адначасова — дзясяткі му́зык!

Учора я легла спаць, а потым прачнулася ад дажджу. Пайшла, зачыніла вокны, легла ізноў і рап-

там адчула штосьці такое дзіўнае. Гэта быў незвычайны дождж. Я выразна чула, як ён шуміць у паветры, так шшшшш... як смажацца яйкі на патэльні. А калі кроплі разбіваюцца аб асфальт, то здаецца, што хтосьці стаіць пад вокнамі і лопае гэтыя пупырышкі з паветрам на пакеціках. І яшчэ дзясяткі розных гукаў, розных дажджоў: у паветры, па стрэхах, па лужынах, падваконнях, і дзесьці там высока-высока, калі вада яшчэ толькі аддзяляецца ад хмараў, і тут на зямлі — цячэ маленькімі ручайкамі. І быццам бы ў цябе дзесяць вушэй, кожнае з каторых чуе асобны гук і чуе яго асобна. Яны не пераплятаюцца ў адзін вялікі дождж. Адначасова — дзясяткі дажджоў! І быццам бы ты калісьці даўным-даўно быў дажджом і ведаеш, як гэта робіцца.

## Лета

Горача. Мы стаім у невялічкім вагончыку. Сёння свята, і таму людзі ідуць адпачываць у парк — хто сем’ямі, хто па парах... Каля нашага вагончыка ўжо сабралася даволі вялікая чарга па ліманад. Мне трэба паскорыцца, каб чарга скарацілася. Дзяўчыне, маёй сённяшняй напарніцы, не перашкаджала б зрабіць тое ж самае, але я нічога не гавару, бо на ейным твары выразна напісана — «не чапай!»

Міла, здаецца, так звалі маю аднадзённую напарніцу, — тыповая дзяўчына «не чапай — не дакранайся — не гавары — са — мною...» Выходзіць, ёсць такія і сярод тых, хто вырабляе ліманад у святы для пісклявых дзяцей і іх бацькоў. Я ж не вылучаюся рашучасцю, таму прыслухоўваюся да таго, што кажа мне Мілін твар. Так, мы маўчым і працягваем рабіць ліманад.

Калі засвойваеш тэхніку, дык атрымліваецца даволі хутка. Бярэш лімон, рэжаш напалам, выціскаеш з яго сок у шклянку, пасля сыплеш туды цукар і заліваеш вадой. Трасеш гэта ўсё колькі секунд, і вось табе сапраўдны ліманад.

Менавіта гэтым мы і займаемся з Мілай у маленькім вагончыку. Цукар прыцягвае вос, яны залятаюць праз вокны, гудуць і не даюць працаваць. Міла пачынае ставіць шклянкі паверх вос, калі тыя

садзяцца на стол. Я моўчкі за гэтым назіраю, гляджу на «палонных» вос, якія б'юцца лбамі ў сценкі шклянак і пры гэтым не сціхаюць ні на секунду... жжжж-ж-з-ззззз...

Невыносная гарачыня прымушае адчуваць усё разоў у дзесяць мацней, чым звычайна. Здаецца, што зараз галава разарвецца ад гэтага гулу. Я не магу больш трываць, бяру шклянкі адну за другой і выкідваю вос за вакно. Міла крычыць і спрабуе мяне спыніць, хапае за руку і ледзьве не плача:

— Ты што робіш? Ты што робіііш?? Яны ж вернуцца назад!! Яны зноў прылятуць сюды!

Чорт. Я не веру сваім вушам. Яна сапраўды думае, што зможа пералавіць усіх вос у гэтым парку. І хочацца таксама крычаць ёй, гучна, як толькі можна, у самыя вушы, з усяе моцы: — Міла! Ты ўсё роўна не пераловіш іх усіх! Гэта немагчыма, Міла! Іх многа! Іх нашмат больш, чым ты можаш сабе ўявіць! У цябе не хопіць шкляначак!!!

Але замест гэтага я падыходжу да яе, крэпка абдымаю і ціха-ціха шапчу:

— Міла, харошая мая, не бойся, я не дам ім цябе пакрыўдзіць.

## Танец

А я спала са сваёй інстытуцкай сяброўкай. Не-не, я не хвалюся, хаця яна даволі сімпатычная — усё, як кажуць, пры ёй. Я проста канстатую факт, такі кавалачак маёй біяграфіі. Але яна не была маёй першай дзяўчынай, да яе ў мяне таксама час ад часу хто-небудзь ды быў. Вось узяць, напрыклад, Юлю. Гэта я так кажу — «вось узяць, напрыклад, Юлю», як быццам бы — пфф... ды пофігу мне на гэту вашу Юлю, проста яна — яшчэ адзін факт з маёй біяграфіі. А між іншым, менавіта Юля была маёй першай, так бы мовіць, паўнацэннай дзяўчынай.

Мы пазнаёміліся з ёй у гей-клубе. Памятаю, як я ішла туды ў першы раз, уся потная, каленкі трасуцца, прычоску рабіла, круцілася паўгадзіны перад люстэркам. А потым забіла на ўсё, ды храпнула бутэльку гарэлкі на дваіх з Пашам, маім закадычным сябрам. Так, для смеласці. А Паша мне кажа — ды супакойся, што ты як дзіцё, праўда, мы што — на выданне цябе вядзем, ці што...

Але атрымалася, што як быццам бы і на выданне.

— Можна вас запрасіць на танец?

Яна тады мне падалася нашмат за мяне старэйшай і проста жах як мне спадабалася. Усё ў ёй было прыгожым — фігура, вочы, нос, шыя, вусны, грудзі, тое, як яна рухаецца, яна проста вылучала

сэксуальнасць. А я павялася. У галаве білася толькі адна думка — я павінна з ёй патанцаваць, павінна, павінна. Удыхнула паветра на поўныя грудзі, сціснула кулакі, заплюшчыла вочы і — будзь што будзе — рушыла ў ейны бок. Па дарозе наткнулася на нейкага саладжавага потнага гея, абышла яго і нарэшце дабралася да запаветнай мэты.

— Можна вас запрасіць на танец?

Мне, калі шчыра, было ўсё роўна, што яна зараз адкажа. Я ведала, што незалежна ні ад чаго сёння я буду з ёй танчыць, сёння яна будзе са мной, а там будзь што будзе.

— М о ж н а в а с з а п р а с і ц ь н а т а н е ц? — сказала я як мага больш выразна, так, каб яна зразумела, што выбару ў яе няма.

Але ніхто і не думаў супраціўляцца.

— Запрашайце, — сказала яна.

Мы танчым, і я прыціскаю яе да сябе, не вельмі моцна, але так, каб адчуваць, як стукае яе сэрца, як яна дыхае, як уздымаюцца яе грудзі. Час ад часу я трошкі адпускаю яе ад сябе каб паглядзець ёй у вочы, каб лепей разгледзець яе твар, і ўсміхаюся. Я шчаслівая, таму што сёння, цяпер, я танчу з самай прыгожай дзяўчынай у гэтым клубе, ды што там... з самай прыгожай дзяўчынай у горадзе, вось як, сёння я танчу з дзяўчынай, пра якую магла толькі марыць, якая снілася мне па начах, якая была такой недасягальнай, што заставалася толькі цешыць сябе думкамі пра тое, што калі-небудзь, калі-небудзь я... А тут яна глядзіць на мяне сур'ёзна і кажа:

— Можаш рабіць са мной усё, што захочаш.

Што захачу.

Я б хацела цяпер узяць яе сваімі крэпкімі рукамі прыцягнуць да сябе упіцца моцна ў вусны цалаваць паваліць на падлогу апантана расшпільваць на ёй яе блузку адной рукой другой сцягваць джынсы залазіць у вільготныя майткі зрываць іх нарэшце цалаваць адну грудзь другую а пальцамі ўжо вывучаць яе ўнутры потым двума трыма хутчэй яшчэ хутчэй глыбей у скронях грыміць так гучна барабанныя перапонкі вось-вось лопнуць тум тум тум тум хтосьці лупіць па іх не шкадуючы цалаваць яе ўсю пакідаць на скуры свае сляды спаўзаць усё ніжэй і ніжэй гарачым языком пранікаць унутр засоўваць яго глыбока так як толькі магчыма адчуваць як пульсуе кроў ва ўлонні удыхаць ейны пах губляць прытомнасць прыходзіць у сябе і пачынаць усё наноў. Без сведак.

— Можаш рабіць са мной усё, што захочаш.

Яна здзекуецца з мяне.

— Не магу, — адказваю я. І мы едзем да яе на таксоўцы.

## Птушкі

«Паглядзі, да каго ты падобная!»

Гэта першыя словы, якія я памятаю. Выхавацелька схіліла нада мной свой грозны твар, балюча схапіла за рукі і пачала іх выцягваць з-пад майкі. Усе дзеці спяць. Я — не сплю.

Да каго я падобная? Мая рука прыцiскаецца да жывата. На мне апранута белая маечка з тонкімі лямкамі. Я засунула рукі ў дзіркі ад рукавоў і вывучаю сябе пад адзежай. Плоскі жывот, маленькая дзірка — пуп, а вышэй яго — два гузікі, цыцкі. Вось, значыцца, я якая... Цікава, да каго гэта падобна? І чаму той, да каго я падобная, так злуе выхавацельку? Напэўна, я падобная да кагосьці страшнага і злога. Напрыклад, да бармалея. Я гляджу на свае рукі і мне здаецца, што яны павялічваюцца і на іх пачынае расці поўсць. «Грррааааа», — крычу я. І мне затыкаюць рот соскай. Мне два гады.

***

Я ўвогуле не ведаю, як мне ўдалося выжыць у дзяцінстве. На кожным кроку мяне падсцерагалі злодзеі, ворагі ды нячысцікі. Дома, на балконе, жыў бармалей, і мне нельга было туды заходзіць, яшчэ адзін жыў у падвале, але туды і без бармалеяў

хадзіць не хацелася. Там было цёмна і заўжды нечым смярдзела.

У бабулі ў калодзежы жыў вадзянік, які толькі чакаў, каб зацягнуць мяне ў сваё логава. Але і ён застаўся ні з чым, бо, калі мне трэба было праходзіць міма, я заплюшчвала вочы і переставала дыхаць. І бегла з усіх ног, пакуль калодзеж не заставаўся далёка за спінай. Дзядзя міліцыянер намагаўся забраць мяне за тое, што я гуляла ў пяску і выпацкала сукенку, ці за тое, што занадта хутка бегала, ці за тое, што лазіла па дрэвах, ці за тое, што не хачу есці... Есці трэба было абавязкова, бо нават калі б дзядзя міліцыянер не дазнаўся пра гэта, мяне б падхапіў вецер, закружыў у паветры, бы лісцік, а пасля пакаціў па асфальце.

Але самым злым маім ворагам былі птушкі. Яны лёталі паўсюль і ўсё ведалі, бачылі кожны мой крок і расказвалі пра яго маме. І нікуды ад іх немагчыма было схавацца. Ні ў шафу, ні пад канапу.

І вось сярод усіх гэтых страшных людзей, звяроў і пачвараў. Я выжыла.

***

А жыла я ў маленькім горадзе, у Вілейцы, дзе птушак было больш, чым людзей. Мой горад — жанчына. Высокая, прыгожая. Жорсткая і бязлітасная. Яна кахала мяне, як мама, а можа нават і болей. Яна падсцілала пад мяне салому, калі я падала, загойвала мае раны, калі не хапала саломы. І яна не змагла мне даравадь, калі я вырасла.

Выжыла. І з’ехала ад яе. У мяне з’явіліся іншыя, акрамя яе, жанчыны. Яна чакала мяне і ведала, што я да яе вярнуся. Таму што мне, апроч Вілейкі, не было куды болей вяртацца. І я вярнулася.

Першае, што я там пабачыла, — былі птушкі. Яны сустрэлі мяне сваім гучным каррр і селі на дах, насупраць майго вакна. У радок.

Я вярнулася, у свой родны горад, дзе ўсё знаёма і ўжо не страшна. Збегла. Ад праблемаў, таго, што трэба шукаць працу, ад дзяўчыны, якую кахала.

***

Дзіўна, але мне не палепшала. Ноччу на мяне наваліліся ўспаміны, абвілі мяне ўсю, мне стала душна і млосна. Але ўрэшце сон перамог.

Першае, што я сасніла, была школа.

— Вось бачыш, якая ты! — крычала сяброўка, якой я не дала спісаць матэматыку. Якая я? Я — невысокая, худая, даўгія валасы, сукенка з чорным фартухам і белым — на першага верасня ды па святах. Я люблю матэматыку і ангельскую. З біялогіяй — троху цяжэй. Жыву ў трохпакаёвай кватэры з сястрой і бацькамі. У мяне ёсць сябар Вадзім. Я люблю хадзіць да яго на выходныя і гуляць на прыстаўцы. І чаму тое, якая я, так злуе маю сяброўку? Я спрабую ў яе запытацца, але яна меншае на вачах і хутка знікае зусім, а на яе месцы з’яўляецца мама.

Мама кажа — а ну пакажы свае вочы! айяяй... я ўсё ведаю!

Я прачынаюся, потная, а на даху насупраць сядзяць птушкі, так, як і ўчора, — у радок.

***

Я ўстала, зрабіла два крокі ўправа, прысела, устала, падышла да вакна, але птушкі былі нерухомымі, яны нібыта прыліплі да даху і не маглі зварухнуцца з месца. І я зразумела — вось яно — бегчы, назад, не азіраючыся. Не спыняцца. У горад, дзе ўсё незнаёма, дзе трэба шукаць працу, дзе чакае дзяўчына, якая мяне кахае. І толькі, калі была ўжо далёка, адзін толькі разок азірнулася — і бусел, які жыў у гняздзе на знаку «Вілейка» на ўездзе ў горад, падалося, мне падміргнуў.

***

Яна кратае мой твар, бо цёмна і нічога не бачна, праводзіць пальцам па вуснах, я паспяваю схапіць яго ротам і не хачу выпускаць. Але цяпер яна мацнейшая за мяне, яна задае правілы, і мне гэта падабаецца. Рабі са мной усё, што захочаш, думаю я. Яна бярэ мой мезенец у руку, другой праводзіць па жываце, указальным пальцам намацвае пуп, цалуе твар, шыю, грудзі, а потым сваім языком пяшчотна і моцна праводзіць па целе — зверху ўніз. У самы ніз. Мяне працінае бы ад току.

Мы ляжым, цяжка дыхаем і ўсміхаемся. «Дык вось ты, аказваецца, якая», — кажа яна.

## Яна і Лагоды

Дзякуй богу, яна была ўсё ж такі бісэксуальнай. Па маладосці сустракалася нават з дзяўчатамі. І не проста там пацалуначкі, сюсі-пусі, не — усё па-сур'ёзнаму было. Ну канешне, потым з гэтым завязала, перарасла, як кажуць. Ну і добра, вядома, яна ні аб чым не шкадуе. А што так здарылася, што цяпер — адна, дык хто ў гэтым вінаваты? Жыццё такое... Дый яна ўсё ж такі не змагла б жыць з дзяўчынай, цяжка гэта, грамадства, бацькі, тое, сёе, а так... хай сабе і адна.

Але ж і не тое каб зусім адна. Ёсць жа Лагоды. Вось жа можа яна так і сказаць: у мяне ёсць Лагоды! — з гонарам так. Яна іх вельмі любіць, напэўна, нават мацней за ўсіх сваіх былых, дзяўчат у тым ліку. Але яна рэдка так кажа: у мяне ёсць Лагоды! — усё часцей: Лагоды — такая цудоўная пара... мне яны так падабаюцца... Не, не зусім так, хутчэй вось так: Лагоды такая цудоўная пара! Мне яны вельмі падабаюцца! І быццам бы гэта зусім і не Лагоды — цудоўная пара, а гэта яна такая цудоўная пара. І няхай усе ёй зайздросцяць. Як, бывае, расказваеш якую-небудзь гісторыю, ну там, пра знаёмага, напрыклад, што Пеця, напрыклад, зняў свой першы ў жыцці сюжэт, і ён, сюжэт, так усім спадабаўся! І ўсе так Пецю хвалілі! А Пеця такі малайчына, ён такі таленавіты! І гонар ледзь-

ве не з вушэй прэ, і не дай божа хто-небудзь цябе перапыніць! Не, вы ўсе проста абавязаны ведаць, які Пеця зняў сюжэт! І чорт з ім, з гэтым Пецем, якога ты толькі і бачыў-та ўсяго адзін раз у жыцці. Бо цяпер ты сам ужо трошачкі Пеця, і ўсе цяпер павінны за цябе парадавацца.

А Лагоды — і праўда, цудоўная пара, вось толькі дзіцёначка ніяк нарадзіць не могуць, а між іншым ужо пяць год як жанатыя. Ніна Лагода раней была Нінай Сахончык, а Саша, зразумела, усё жыццё і быў Сашам Лагодам, а цяпер яны Ніна і Саша Лагоды. І яна разам з імі таксама трошкі Лагода. Пяць год ужо як Новы год сустракаюць разам. Яны ніколі не забываюць запрасіць яе да сябе. Уключаць тэлевізар, паслухаюць прэзідэнта. У дванаццаць нальюць шампанскага, загадаюць жаданні, чокнуцца і вып’юць, «за нас!». Ціха ўсё так, пасямейнаму. А потым на ёлку сходзяць у цэнтр.

І дзякуй богу, што яна ўсё ж такі бісэксуальная. Бо цяпер яна можа пераспаць з імі дваімі і нікога не пакрыўдзіць. Ні Сашу, ні Ніну. І стаць нарэшце сапраўднай Лагодай. Яна так і загадае на наступны Новы Год, напіша на паперцы сваё жаданне, запаліць, кіне ў бакал. І вып’е залпам.

## Казка

Раскажу-ка я вам, рабяткі, казачку. Жылі-былі ў лесе тры мядзведзі — мама-мядзведзь, тата-мядзведзь і сынуля-медзведзяня. Пабудавалі яны сабе ў лесе домік, там і жылі не тужылі. Спалі яны ў спаленцы, а кушалі на куханьцы. І ўсюды быў парадак у мядзведжай хатцы. Тата-мядзведзь спаў на сваім вялікім ложку, мама-мядзведзіха — на крыху меншым, а сынуля-медзведзяня — на маленькай канапцы. Кожны еў са сваёй талеркі, карыстаў уласную лыжку ды піў з уласнага кубка. Так і жылі, так і жылі...

Але здаралася і так, што прыходзіла да іх дзяўчынка Машанька. «Добры вечар у хату!» — казала Машанька і заставалася там гаспадарыць. Як калі бывала... але бывала, што і на тры гады.. Калі так, то лічылася, што гэта добра. Дзеля гэтага ўсяго, акрамя вялікага ложку, крыху меншага і канапкі, у спальні стаяў яшчэ адзін — самы вялікі ложак. І называўся ён — ЛОЖА. Было ў яго яшчэ адно імя, але яго амаль што ніхто не ўжываў — «эстафетная палачка» — таму што яно было крыўднае. А ўсё чаму? Бо Машанька прыходзіла гаспадарыць не да ўсіх адразу, а да якога-небудзь аднаго канкрэтнага чалавека. То бок, то мог быць тата-мядзведзь альбо мама-мядзведзіха. Ну... і зрэдку, але бывала, што і сынулю-медзведзянят-

ку перападала. Але не да ўсіх адразу. Не. І вось, да каго яна прыходзіла, той і дзяліў з ёй ЛОЖА.

Бывала, сядзяць мядзведзі доўгім зімовым вечарам каля тэлевізара, і сынуля-мядзведзік пытаецца: «Мама-мама, а чаму да нас заўжды прыходзіць толькі адна Машанька? Як бы было добра, каб у кожнага з нас было па Машаньцы! У таты — вялікая Маша, у цябе — крыху меншая, і ў мяне — свая, маленькая Машанька...» І тады мама-мядзведзіха цяжка ўздыхала і адказвала: «Разумееш, сынку, тут, у нашым лесе, у гэтым засраным зарасніку жыве толькі адна Машанька. Таму даводзіцца дзяліцца з усімі...»

Вось такая вось, рабяткі, гісторыя. І ўсё-та я ў ёй разумею... Але ж мы, блядзь, не ў лесе!

## Пазл

Ехала сёння ў набітым людзьмі тралейбусе ў цырульню. Я стаяла, а перада мной сядзела дзяўчынка і піла гарбатку з пластмасавай шкляначкі. Раптам дзяўчынка шырока адкрыла рот і блеванула ў шкляначку з гарбаткай на дне. Мне стала брыдка, і я адвярнулася. Дзяўчынка плакала... мама выцірала ёй рот і спрабавала супакоіць, а я не чула словаў, бо слухала плэер. На прыпынку яны пачалі выходзіць. Я забаялася, што зараз яна блеване на маю куртку, таму хутчэй прашмыгнула і села туды, адкуль толькі што яна ўстала. Тут мне стала брыдка ад таго, што сяджу цяпер на тым самым месцы... Я падняла галаву і ўбачыла перад сабой мужыка з адным вокам. Чорная дзірка ўглядалася ў мяне. І раптам усё стала па сваіх месцах. Склаўся пазл, расклаўся пасьянс. І я адчула, што ўсё харашо.

## Падарожжа ў Егіпет

Томаку было 27 гадоў. Ён нарадзіўся ў невялічкім горадзе W. Няма сэнсу расказваць штосьці яшчэ пра Томака — ўсё адно нічога адметнага ў яго жыцці не адбывалася. Хіба што варта ўзгадаць пра знешнасць — Томак быў досыць прывабным. Ён мог бы нават карыстацца попытам сярод дзяўчат.

Усё здарылася падчас падарожжа ў Егіпет.

Ён, як звычайна, распланаваў усё яшчэ задоўга да самой вандроўкі.

23 студзеня яны з мамай сядуць у самалёт і ўжо праз чатыры гадзіны, апранутыя ў шорты і майкі, будуць ісці па афрыканскай зямлі, удыхаць цёплае, салодкае паветра. Ён прыабдыме маму, пацалуе яе ў шчаку, а яна хлопне яго па задніцы... па-бацькоўску лагодна. Ім дадуць адзін нумар і будуць гадаць, хто гэта — мама і сын альбо састарэлая жанчына з маладым палюбоўнікам? І ад такіх думак у Томака казытала пад левай лапаткай.

Ён вырашыў так. Кожную раніцу яны будуць прачынацца а сёмай, каб не марнаваць часу. У сем пачынае працаваць сталоўка — рана, і таму яны там будуць адны. Будзе добра і цёпла. Спакойна — гэта Томак любіў больш за ўсё. І ніякія гаваркія італьяшкі ці хто там яшчэ не будуць ім замінаць. Яны будуць есці круасаны і піць салодкую каву. На абед яны вып'юць булёнчык і з'ядуць спагеці

з салатай. А перад сном абавязкова — па бакале чырвонага егіпецкага віна. Каб сон быў здаровым і крэпкім.

Пасля сняданку мама і Томак пойдуць на пляж. Адна толькі думка, што ім з мамай давядзецца ехаць у адным аўтобусе з іншымі людзьмі, пачынала Томака нерваваць.

Яны абавязкова будуць на пляжы да адзінаццаці, бо пасля сонца ў Егіпце становіцца небяспечным. Ён вельмі дасканала ўсё спланаваў.

— Прывітанне! Я — Віка. Адпачываеш з мамай?

Яна ляжала на пляжы і была вельмі прыгожай. І ён бы ніколі яе не заўважыў, калі б яна сама да яго не падышла.

І тут усё закруцілася, закруцілася ў галаве Томака, як верталёты, а зямля пачала выпаўзаць з-пад ног.

— Ды так... — сказаў Томак.

А Віка была загарэлая і пабегла да мора, як русалка, нырнула ў ваду. І нават Томак сам сабе адзначыў, што яна прыгожая.

Цяпер увесь час, заўсёды, яна была побач з ім. На сняданак яна сядзела за суседнім столікам і макала круасаны ў каву, бо Томак ніяк не мог устаць а сёмай і прачынаўся ў дзевяць. Сядзела за імі з мамай у аўтобусе, які вёз іх з пляжу, а вечарам піла чырвонае віно. І Томак не мог з-за гэтага спакойна размаўляць з мамай. Гэта ніяк не ўваходзіла ў яго планы. Страшна сказаць, але нават ноччу яна яму снілася. І гэта без перабольшанняў былі

кашмары. Мама раптам ператваралася ў Віку і пачынала казытаць яго пад пахамі, а потым тонкім і крэпкім языком залазіла яму ў рот. А потым ён ужо і не памятае што. І прачынаўся ўвесь потны. І крычаў: «Маааама!»

Томак нават цяпер ведаў, што яму рабіць. Заставалася яшчэ цэлыя чатыры дні адпачынку, і яшчэ ўсё магчыма было паправіць. Ён падпільнаваў яе раніцай, калі Віка выходзіла са свайго нумару. Засунуў нагу ў дзвярны праём. Праціснуўся сам у пакой, замкнуў яго знутры, каб ніхто не паспеў пабачыць. І апантана, захлынаючыся сваёй салодкай слінай, душыў, забіваў дзяўчыну.

Нарэшце ўсё было скончана. Віка ляжала нерухомая каля прыбіральні і была ўсё яшчэ прыгожай.

## Мама, спі

Яна нават не ведае, як гэта здарылася, як так атрымалася. Часам ёй здавалася, што калі б яна адчула, што вось — яно навальваецца, вось — падкрадваецца, яна б змагла гэта спыніць, папярэдзіць. Але яна не ведае, калі гэта пачалося. Проста ў адзін момант так — бац! — і яна зразумела — усё. І ўсё, ты ўжо па вушы ў гэтым лайне і не ведаеш, як з яго выпаўзці, як вырвацца, і тонеш, тонеш, і вязнеш — усё глыбей і глыбей. Так яна прачнулася аднойчы ад жудаснага страху, ад адзіноты і зразумела, што яна не тут, не — не ў гэтым ложку, не ў гэтай кватэры, не ў гэтым горадзе. Не, яна не тут — яна сядзіць адна ў вялізнай цёмнай яме, і ёй страшна. Божухна, так страшна, што хоць ты крычы. І людзі так далёка, і ўсе гукі, усе галасы да яе далятаюць, быццам рэха, ледзь-ледзь можна пачуць, і ўсё нібыта ў тумане. А як так здарылася, яна не ведае, проста аднойчы прачнулася і зразумела, што яна не тут, а ў глыбачэзным калодзезі, халодным і страшным... Не звар'яцець. Не звар'яцець. Толькі не звар'яцець.

І тады яна пачала есці, цягнула ўсё, што траплялася пад руку. Толькі так, ёй здавалася, яна здолее выжыць. Не дасць смерці падкрасціся блізка і задушыць. Толькі калі будзе шмат есці — тады яна будзе моцнай і смерць не здолее яе закапаць у гэ-

тым жудасным калодзезі. Яна не хацела паміраць, ёй так хацелася жыць, цяпер — як ніколі. І яна змагалася са смерцю — ела, ела, ела. Але гэта не дапамагала, яе цяжкое цела ўсё з большай моцай цягнула яе на дно, ёй не хапала паветра. Асабліва па начах, яна прачыналася і не магла дыхаць, хапала паветра ротам, нібы рыба. Хацелася закрычаць, пазваць на дапамогу, так, каб яе пачулі, каб прачнуліся суседзі. Я не хачу паміраць! Не звар'яцець.

Больш так не магу, не вытрываю — і яна пазваніла сыну — прыязджай, я захварэла, мне дрэнна. І ён прыехаў.

Ён быў тут, побач з ёй у кватэры, размаўляў, жартаваў, вадзіў яе ў лес, на возера, забаўляў, як мог, купляў сокі і апельсіны. «Мама, — казаў, — ты ачуняеш, ты чуеш?» Але яна злавалася на яго, ведала, што ён не вінаваты, але ўсё адно злавалася. Я столькі разоў не спала з-за цябе начамі, думала яна, калі ты хварэў, я паіла цябе травамі, выклікала дактароў, вазіла па больніцах. Не спала, не спала, не спала! Ні на секунду не змыкала вачэй. А ты кожную ноч ідзеш у свой пакой і засынаеш, а я не магу, бо мне нават побач з табой страшна.

Яна не магла заснуць, варочалася, калацілася ад страху. У чатыры раніцы, так і не заснуўшы, уся змучаная, уставала і пачынала хадзіць па кватэры. А ён спаў крэпка там, у сваім пакоі. І яна злавалася. О Божа! — думала яна — я як маленькае дзіця. Яму са мной цяжка. Ёй хацелася плюнуць на ўсё, зайсці ў той пакой, залезці да яго пад

коўдру. Урэшце, ён так часта рабіў гэта, калі быў маленькі.

Яна адчувала, што яшчэ адной такой ночы не вытрывае. І яна прыйшла да яго — сказала — там шумна, машыны, я не магу заснуць. А ён так і закалаціўся, адчуў, быццам бы яго закінулі ў мінулае, на трыццаць год назад, калі яму было сем. І ён ляжыць тут, побач з мамай, і яму сем. А там яму трыццаць сем, у яго дзеці — два сыны і дачка. І жонка. А тут яму сем і ён спіць побач з мамай, як раней, даўно, калі ён прыходзіў ноччу да іх з бацькам, кратаў маму за плячо і казаў — мама, мне страшна. І яна супакойвала яго — не бойся, сынку, хадзі да нас, усё харашо, гэта толькі сон. Ён забіраўся да іх пад коўдру, туліўся да мамы і засынаў.

А які ён быў тады, у сем — закатваў істэрыкі, як прыбягаў ноччу ў пакой да бацькоў і крычаў — ды зрабіце вы нарэшце цішэй тэлевізар! Я не магу заснуць! І яны баяліся яго, рабілі цішэй. Але ён накручваў сябе і ўжо не мог супакоіцца. Яму здавалася, што ён усё роўна чуе гэты чортавы тэлевізар! Ён варочаўся ў ложку, нерваваўся, ускокваў і зноў бег з крыкамі да бацькоў. І супакойваўся толькі тады, калі яны ўрэшце выключалі тэлевізар. А гэты храп... гэта было горай за ўсё, вось чаго ён сапраўды не мог трываць. Ён затыкаў вушы ватай, залазіў пад коўдру, накрываў галаву падушкай. Чаго толькі ні рабіў. І плакаў, плакаў, плакаў. Галасіў, заліваючыся слязьмі, таму што храп пранікаў пад коўдру, праходзіў праз падушкі, скрозь вату — у самыя вушы.

А цяпер яму трыццаць сем, і ён ляжыць з мамай у адным ложку. Ляжыць і не можа заснуць, варочаецца, глядзіць на гадзіннік — ужо гадзіна, ужо дзве, ужо тры... А мама ціха ляжыць, яе не чуваць амаль што, толькі ўздыхае час ад часу, і ён ведае — не спіць. Гэтая цішыня давіць на вушы так, што немагчыма, хочацца ўстаць і заспяваць, сказаць — мама, глядзі як я ўмею, і станчыць што-небудзь, якую-небудзь польку. Толькі б не маўчаць, не ляжаць тут у гэтай страшэннай цішы. Шукаць паратунак. Мама, спі, мама, спі.

Ён чуе яе дыханне, прыслухоўваецца. Чуе, як яно становіцца цяжэйшым, як да яго прымешваюцца розныя гукі, спачатку ледзьве ўлоўныя, потым усё грамчэйшыя і грамчэйшыя. Мама заўсёды храпла, ён памятае, як закатваў з-за гэтага істэрыкі, як затыкаў вушы і плакаў, залазіў пад коўдру і нацягваў на галаву падушку. Тады яму было сем і ён не ведаў, што мамін храп азначае дзве рэчы — мама жывая і мама спіць.

# Параноя

Калі б ні гэтая дурацкая параноя, Вадзім застаўся б начаваць у сястры. Яна ўжо нават паслала яму на навюткай канапе, але раптам яму здалося, што ён пакінуў на пліце чайнік. І вось цяпер, замест таго, каб спаць пад цёплай коўдрай, ён ідзе па цёмных бязлюдных вуліцах, праклінаючы чайнік, быдлянскі раён і сваю параною. Але параноя толькі расце... Можа з-за таго, што ён баіцца сабе прызнацца ў тым, што баіцца. А можа — з-за таго, што паўгода таму якраз у гэтым завадскім раёне яго зажопілі два гопніцкага выгляду амбалы. І пачалі збіваць, так, як быццам бы ён быў штосьці ім вінны. І хаця ён нічога не быў ім вінны, аддаў амаль усё, што ў яго тады было — кашалёк, мабілку, пачак цыгарэт і гадзіннік.

Цяпер у яго быў ужо новы гадзіннік, які акурат у той момант, калі ён на яго паглядзеў, паказваў 00.52... І калі праз хвілін пяць няспыннага страху і трасення Вадзім ізноў глянуў на свой гадзіннік, на ім было 00.53. А да дома было яшчэ далёка, і самы страшны кавалак дарогі — мост над чыгункай — яшчэ наперадзе.

Спачатку ён думаў паслухаць плэер, каб скараціць дарогу, троху забыцца... Але тут жа зразумеў бязглуздасць і небяспечнасць сваёй ідэі. Ён ішоў ціха, прыслухоўваўся да ўсяго навокал,

да кожнага свайго кроку. Ці толькі свае крокі ён чуе? Часам яму здавалася, што хтосьці ідзе побач, тады ён спыняўся, каб праверыць, ці сапраўды гэта ягоныя крокі, тыя, што ён чуе? І калі ён спыняўся, то пераставаў дыхаць. І чуў толькі, як сэрца стукае ў горле... І кожны такі раз ён разумеў, што гэта ўсяго толькі пакаціўся лісток па асфальце.

Раптам за спінай ён пачуў мужчынскія галасы. Вадзім тут жа адскочыў убок і ўціснуўся ў сцяну, галасы ўсё набліжаліся, а ягонае сэрца тухкала ўсё гучней і гучней, ён ледзь-ледзь вытрываў, каб не запішчэць: «Ратуйце!!!» Хаця хто яго мог тут пачуць? Гэта была сценка старога закінутага завода. І нікога наўкола... Праўда, калі паўгода таму ён крычаў «Ратуйце!!!», яго ніхто не пачуў, хаця гэта было ва ўласным яго пад'ездзе, але можа, ён слаба крычаў, хто цяпер разбярэцца...

Але людзі апынуліся ўсяго толькі людзьмі, яны прайшлі, не зважаючы на Вадзіма. Ён адліп ад сцяны і вырашыў, што так далей працягвацца не можа. І хоць такія паводзіны больш прыцягваюць да сябе ўвагу, ён вырашыў, што будзе бегчы. Перад тым як кінуцца з усіх ног, ён падабраў з зямлі камень, з разліку, што калі дабяжыць да жылога квартала, то зможа ў выніку чаго зашпульнуць ім у акно... Ён будзе бегчы так хутка, як толькі можа. А там глядзіш — і мост над чыгункай перабяжыць, за якім ужо пачынаюцца дамы. А дамы — гэта вокны, а ў вокнах — людзі...

Гэта, напэўна, быў самы доўгі і самы хуткі ў яго жыцці крос.

І вось ён падбягае да дома, з каменем у руцэ, сэрца б'ецца, як у таго сабакі, яшчэ троху, і ён думае, будзе дома, вось ён ужо бачыць свой пад'езд, ён азіраецца — ззаду нікога няма… І тут з іншага боку з'яўляецца сілуэт, ён набліжаецца да яго пад'езда, становіцца ўсё бліжэй і бліжэй, Вадзім бачыць, што гэта дзяўчына, у карычневым паліто ды без шапкі, чамусьці менавіта такія дробязі запамінаюцца ў такія моманты, ён нават не разумее, заўважыла яна яго ці не… ён думае, што калі паскорыцца, то можа быць, яна не паспее зайсці ў сваю кватэру… дзяўчына спыняецца каля дзвярэй, адчыняе… ён выкідвае камень з рукі, наўрад ці яшчэ ён спатрэбіцца, дзяўчына заходзіць у пад'езд, праз пару секундаў ён дабягае да дзвярэй, азіраецца, пасля таго як на яго напалі, ён ніколі не ўваходзіць у пад'езд, не праверыўшы ці не ідзе хто за ім, — здаецца, усё спакойна, ён зачыняе дзверы, двума шырокімі крокамі пераадольвае пралёт у 8 прыступак, прыціскае руку да яе рота і кажа:

— Паспрабуй толькі піскнуць, шлюха.

## Выпадак на здымачнай пляцоўцы

Сёння мой першы дзень на новай працы. Сумоўе я прайшоў досыць лёгка і цяпер прыглядаюся да людзей навокал. Часы, калі я хваляваўся на новым працоўным месцы, засталіся ў мінулым, за гэта дзякуй маім дваццаці месцам працы і тром гадам псіхатэрапіі.

Мая новая пасада — памочнік кінарэжысёра. Гэта я так сябе называю, але фактычна я хлопчык на пабягушках — падношу каву акторам, сачу за рэквізітам... Цікавы досвед, цікавыя людзі. Ёсць, праўда, маленькая акалічнасць, якой я не тое што надаю вялікае значэнне, але пра якую хачу папярэдзіць. Будучы фільм называецца «Рыцар вярхом на даме». Атмасфера тут творчая. Рэквізіт не багаты.

Усім акторкам з масоўкі я мушу раздаць гарсэты. Маю ўвагу прыцягвае адна дзяўчына, бачна, што яна ўдзельнічае ў гэткім упершыню. Яе завуць Юля, і яна мне сімпатычная, бо пазнаю ў ёй сябе год 12 таму... Юля спрабуе сябе на ролю ў масоўцы і хвалюецца так, нібыта гэта яе галоўная роля ў фільме Таранціны.

Канешне, гэта цяпер я — вялікі, спакойны і нягалены. Мне ўсё па калена. І таму мне смешна і разам з тым прыемна назіраць за тым, як мітусіцца Юля, як не ведае, куды сябе падзець. Людзі — гэ-

та ўвогуле тое, за чым я сюды прыйшоў, я люблю назіраць за людзьмі, і я ведаю, што калісьці здыму пра іх свой уласны фільм.

Пакуль я заварваю каву і раздаю гарсэты, паспяваю ахарактарызаваць для сябе ўсіх людзей на пляцоўцы. Галоўны тут — рэжысёр, пасля ідуць «зоркі» — такія крутышы, якія размаўляюць толькі з сабе падобнымі, задзіраюць насы, а пасля ў фільме будуць задзіраць свае дзюбкі... Дзюбкі ў іх доўгія і прыгожыя. Зрэшты, іншых сюды і не запрашаюць. Юля тут «новенькая».

Я назіраю за Юляй... Сюжэт фільма зусім просты. Нашмат цяжэй нацягнуць на сябе гэты дурацкі гарсэт. Юля ходзіць разгубленая, і нават яе прыгожыя грудзі ёй не дапамагаюць — бачна, як яна разгубілася побач з усімі гэтымі сталымі, дасведчанымі і вядомымі ў вузкіх колах акторамі. Яна мітуслівa азіраецца па баках, сціскае ў руках свой гарсэт, кусае пазногці... Яе вочы — круглыя і вялікія.

Да пачатку здымак застаецца пяць хвілін.

Мы сустракаемся з Юляй позіркамі. Кажуць, у мяне добрыя вочы.

Чатыры хвіліны.

Тры.

Больш адцягваць — няма як. Яна падбягае да мяне, хапае за руку сваёй мокрай рукой, адводзіць у цёмную і сырую каморку, суе ў рукі гарсэт. І бледная, разгубленая дрыжачымі вуснамі ледзьве чутна шэпча:

— Дапамажы мне, калі ласка.

І распранаецца.

***

Шмат хто мне кажа, што калі б не было смерці, не было б сэнсу і жыць, што ўласна ў смерці і ёсць сэнс жыцця, што калі ведаеш, што гэта павінна скончыцца, яно не назаўсёды, — пачынаеш цаніць больш і жывеш асэнсавана, а значыцца, на поўную; і я гатовы з усім гэтым пагадзіцца адразу, але я ведаю, што калі я п’ю сваю бутэльку піва каля тэлевізара і ведаю, што гэта мая адзіная на сёння бутэлька піва, і бачу, як з кожным глытком яго становіцца меней, калі я еду ў метро і ў навушніках грае мая ўлюбёная песня, і я дакладна ведаю колькі акордаў засталося да фінальнага яе акорда, а плэер ляжыць на самым дне заплечніка, і да яго ў такую гадзіну пік не дабярэшся, калі я сплю ў абдымку са сваёй каханай дзяўчынай і ведаю, што гэта ў апошні раз яна мяне абдымае, што гэта наша апошняя ноч, прычыны бываюць розныя, — усё гэта не дае мне магчымасці расслабіцца і атрымаць ад жыцця асалоду, і, як вынік, сказаць сябрам, што я шчаслівы; і вось калі я пра гэта думаю, то бываю вымушаны адзначыць, што людзі, якія так кажуць пра смерць, — дурні, і што апошні раз я быў шчаслівым у шэсць гадоў, калі з вакна дзіцячага пакоя падглядзеў, як хаваюць суседа-алкаголіка.

***

Вілейка. Дубаўка. Раніца.
Ён сказаў у нудзе:
«Сэ ля ві»,
і мы селі ля Віліі.
Запалілі.
Каменьчыкі ў рэчку кідалі,
глядзелі, як распаўзаюцца
кругі ад іх па вадзе…

## Галава-жбан

Мая галава — як пусты жбан,
там нічога няма, што б магло зацікавіць.
Пустата — гэта нуль,
бездажджовасць хмар,
безнаяўны разлік
без прысутнасці марак
у кішэні.

Што ж ты будзеш рабіць?
Нарадзіўся такім,
больш дакладна — мяне нарадзілі.
Сам нічога гэтым жыцці не зрабіў,
нарадзіцца не змог — нарадзілі,
не падумаўшы.

Галава — жбан,
галава — бот,
балюча галаве, бо
галава навучылася марыць.

***

Маляваць усю ноч
легчы пад раніцу
легчы пад коўдру
заплюшчыць вочы…
і зразумець
што ўсім «да задніцы»
што ты і дзе
вымалёўваў ноччу…
Раніцай устаць
папаўзці да возера
камень на шыю
і ўніз…
вось так.

На шыльдзе магільнай
будзе напісана
ні больш і ні менш:
«Непрызнаны мастак».

***

Сяджу каля тэлевізара
ем цукеркі
паперкі
слінай прымацоўваю
да сценкі.
Адначасова
дакладна — у перапынках
калупаю пальцам
у шкарпэтках дзірку.
Размалёўваю «А4»
уздоўж і ўпоперак
упоперак і ўздоўж.
Я
злосны калючы вож
іголкі растуць
на спіне.
Ты патэлефануеш
ці не?

***

Непазбежна вясны наступства:
што ні дзеўчына, то распуста,
з Менску, з Горкі, з-пад самай Ніцы,
што ні дзеўчына, то ў спадніцы.
Захіснула вясна мне вочы —
агаляюць паненкі грудзі.
І з цырульні павольна крочыць
ці то дзеўчына, ці то пудзель.

***

Што мне рабіць з табою,
такой прыгожаю?
Калі ты стаіш на кухні
ў адных шкарпэтках
і варыш каву. мне.
у маёй кватэры, —
Глядзець на цябе.

Што мне рабіць з табою,
такой разумнаю?
Калі ты расказваеш
мне. з захапленнем
пра фільм, які паглядзела,
пакуль я была на працы, —
Слухаць цябе.

Што мне рабіць з табою,
такой пяшчотнаю?
Калі ты ўсміхаешся
і кратаеш мяне за руку
сваёю рукой
пяшчотнай, як ты ўся, —
Абдымаць цябе.

Што мне рабіць з табою,
такою дзікай?

Калі ты ператвараешся
ў ваўчыцу, і я
імгненна
ператвараюся ў ваўка, —
Спаць з табой.

Што мне рабіць з табою,
такою зменлівай?
Кожны дзень рознаю,
Непасрэднаю,
пазбаўленай логікі, ды
Нявечнаю, —
Быць з табой.

## Мілан. Вечар

Частавалі нас кавай
ветліва і ласкава,
налівалі гарэлку…
ці то ангельскі ром?
Ля кавярні «Ла Скала»
лашчыла-мілавала,
абурыўшы суседзяў
справа,
каленку яе пад сталом.

***

Мы крочылі побач
рука ў руку
да пляча плячо
твар у твар
вочы ў вочы
ў рот рот.

Так мы ступалі, крочылі
нага ў нагу,

пакуль ты не збочыла.

І цяпер вока за вока,
цяпер — зуб за зуб.

Усё, што ты з сабою забрала,
я выскубу, адгрызу —
вярну сабе ўсё,
да сябе вярнуся...

Забяру сабе свае вочы,
з твару змыю твой твар,
адляплю ад вуснаў твае вусны,
вырву руку з рукі.

І калі сэрца сціснецца ад адчаю,
я буду шаптаць, як мантру,
што ты — родная,
баючыся паверыць,

што ты чужая.

***

Я называў цябе заяц,
ты мяне называла лапка
мы былі разам — заяч’я лапка
Зая, чыя лапка
цяпер я?

***

Забяры мой боль
працягні далонь
я табе адсыплю
яго з гакам

а пасля свой сум
ў скрутку прынясу

Забяры яго
бо я сам
не ў стане

забяры мой цень
абдымі мяне
паглядзі як моцна
мяне хістае

Забяры мой цень
Забяры мой сум
Забяры мой боль

І мяне не стане

***

Я ведаю, што так будзе,
што я прачнуся 1-га студзеня
адзін дома
адзін у горадзе
адзін на дварэ
до рэ мі фа мі до рэ
спяваюць за вокнамі п’яныя,
а я ныю, ныю, я завываю,
а ты сцябешся, з цябе ж усё
роўна ўзяткі гладкі, усё-ткі
я сам вінаваты, што так
адбываецца з года ў год.
І гэта не лечыцца, і не лічыцца,
што быццам бы ёсць нагода —
дзве тысячы сем нагод!

Я і гарэлка «дзяржава» —
такое вось дэжа вю,
такі, бляха, новы год.

***

Калі недасканаласць свету
заб’е апошнія мары ў маёй галаве
І я прачнуся рана ад шуму
дажджу за вакном
Ну вось і усё, як кажуць,
Game is over. Капец. Гамон.

Вазьму тэлефонную слухаўку,
пазваню дамоў — я нармальна, мама,
нармальна...
усё ў мяне. А як там ты?
Глядзі, кладзіся спаць рана,
перад сном пагуляць схадзі.

Пакладу слухаўку.
Пагалюся.
Раздам даўгі.
Гэй! Дайце мне цыгарэту
І жоўты шалік даўгі.

***

Калі ў вачох цямнее,
мне хочацца проста ўкленчыць:
«О Божа, хачу да мамы!
да таты хачу на плечы...»
каб апынуцца ў дзяцінстве,
як колісь —
хавацца ў шафе
сярод кажухоў і шапак,
цукеркі цягаць з буфета
ды красці ў суседа слівы

...і быць маленькім і лёгкім,
і, ёб вашу маць,
Шчаслівым.

## А мне хочацца жыць,
## нават калі не хочацца жыць

Калі снег пачынае падаць
калі лепіцца ў горле ком
не таму што ты хочаш плакаць
а таму што зіма вакол

калі снег перастаў на вейках
таяць, людзі пад ліхтаром
танчаць рэгі на слізкіх рэйках
і дарма што зіма кругом

ты глядзіш з-за высокіх кратаў,
а ў вачох ўсё дрыжыць дрыжыць
не таму што ты ўжо заплакаў
а таму што жыццё імжыць

не ідзе, не вальсуе ў танцы,
не бурліць, не цячэ-бяжыць.
разумееш, што нават зараз

хочаш жыць

## Змест

У «Пункце адліку» серыі «Кнігарня пісьменніка»
ўжо выйшлі:

1. Анка Упала. Дрэва энталіпт
2. Катерина Зыкова. Объяснительная
3. Кирилл Дубовский. Хороший роман

Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Падсерыя «Пункт адліку»

**Манцэвіч** Наста

**Птушкі**

Рэдактар Павел Анціпаў
Камп’ютарны дызайн, вёрстка Юліі Андрэевай
Дызайн вокладкі Nick Antipov
Мастак Robusta
Карэктар Алена Пятровіч

Падпісана да друку 18.06.2012. Фармат 76х100 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 2,9. Улік.-выд. арк. 1,0.
Наклад 300 асоб. Замова 387.

Выдавец І. П. Логвінаў.
ЛИ № 02330/0494468 от 08.04.2009.
Пр-т Незалежнасці, 19-5, 220050, г. Мінск.
logvinovpress@mail.ru

Надрукавана на капіравальна-памнажальнай тэхніцы
І. П. Логвінава.